Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

Радыкальная тыднёвая часопіс.

Цана асобнага нумару 20 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Ліпоўка 18.

Адрэс для карэспандэнцыі і падпіскі: паштовая скрынка № 19.

ПРЫЙМО ІНТЭРЭСАНТАЎ ад 10 да 2 гадз. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

Падпіска з дастаўкай да хаты: на 1 год — 6 зл., за паўгоду — 3 зл., за 3 мес. — 2 зл., за 1 мес. — 50 гр.

Год I. Вільня 29 Ліпня 1931 г. № 17

## РЫХТУЙМАСЯ ДА ЎСЕНАРОДНАГА СЬПІСУ!

Сёлета ўвосені па ўсей Польшчы мае адбыцца агульнае сьпісаньне насяленьня. Абыйме яно, ясна, і землі Беларускія, і беларусы пад Польшчай павінны будуць пры гэтым паказаць, ці яны йшчэ жывуць і хочуць жыць, ці асталіся беларусамі і захавалі вернасьць свайму народу і сваей Бацькаўшчыне, — ці не. Для Польшчы-ж гэта будзе як-быццам праверка правільнасьці яе дасюляшняе палітыкі ў адносінах да беларусаў:

*зьмяншэньне*

лічбы людзей, якія запішуцца беларусамі, дало-б падставу польскаму нацыяналізму, каторы імкнецца да поўнага вынішчэньня беларусаў, як нацы, лічыць гэту палітыку добрай, бо дасягаючай сваей мэты;

*павялічэньне-ж*

чысьленасьці беларусаў, раўнуючы з папярэднім сьпісам, было-б красамоўным доказам таго, што палітыка, якая пазбаўляе два мілёны беларусаў роднае школы і імкнецца да дэнацыяналізацыі іх шляхам «адміністрацыйнага націску», мэты сваей не дасягае і мусіць быць урэшце адкінена да заменена лёяльным і сумленным адношаньнем да беларусаў і да іх бясспрэчна слушных і законных дамаганьняў у галіне культурна-асьветных і эканамічна-гаспадарчых спраў.

Гэта мусіць добра зразумець кожны беларус — як інтэлігент, так і селянін ды работнік. Гэта трэба тлумачыць асабліва тым нясьведамым, загнаным і запужаным нашым сярмяжнікам, якія, баючыся ўсяго, могуць убаяцца і пры сьпісаваньні прызнаць сябе адкрыта сынамі Беларускага народу. Гэта павінны ўрэшце зразумець і тыя эмігранты з беларускае вёскі, якія, перабраўшыся ў места і зьліваючыся з чужой ім нацыянальна стыхіяй, так хутка забываюцца, хто яны... І баявым заданьнем усіх беларускіх грамадзкіх арганізацыяў і партыйных груп мусіць быць

*энэргічная падгатоўка нашых масаў*

да гэтага нязвычайна важнага

*акту нацыянальнага самавыяўленьня,*

каб беларусы не далі пры сьпісаваньні абаламуціць сябе, каб дапільнавалі правільнага запісу заяваў аб іх беларускасьці.

Бо-ж ворагі нашыя спаць ня будуць: наадварот, польскі нацыяналізм будзе рабіць усё, каб даказаць «вялізарныя поступы ўплыву польскае культуры» на беларускія масы — іменна дзякуючы дасюляшнай палітыцы, якую мы так балюча ўсе на сабе адчуваем. І мы мусім наперад зрабіць засьцярогу, што трудна верыць у правільнасьць і об'ектыўнасьць цыфр, якія будуць атрыманы пры сьпісе, з увагі на тое, што ў гэтай справе

*мамэнт палітычны іграе галоўную ролю*

А якія спосабы ў такіх выпадках пускаюцца ў ход, могуць нам сказаць апошния выбары ў Сойм і Сэнат...

Дык тым балей мусім мы рыхтавацца да сьпісу загадзя, каб у меру магчымасьці зьменшыць усялякія надужыцьці і няправільнасьці, каб забясьпечыць народу магчымасьць свабоднага выяўленьня сваей нацыянальнай сьвядомасьці. А ў першы чарод павінны ўсю гэту справу ўзяць да сэрца

*нашыя самаўрадавыя дзеячы:*

бо-ж акцыя сьпісаньня будзе адбывацца пры вельмі чынным учасьці самаўрадаў.

Грамадзяне Радныя! Памятайце, што ад таго, хто і як будзе сьпісываць насяленьне, ад нацыянальнага складу камісіяў і сьпішчыкаў, ад іх сумленнасьці і бесстароннасьці ў вялізарнай меры будуць залежаць вынікі сьпісаньня — і

*статыстычныя, і палітычныя!*

Дык пільнуйце, каб пры складаньні камісіяў і вербаваньні сьпішчыкаў уся акцыя не апынулася цалком у руках «пануючае нацыі», каб усюды былі і прадстаўнікі гэтак-званых «меншасьцяў», а перад усім— беларусаў, якія на сваей роднай зямлі складаюць ня меншасьць, а большасьць, і пры сьпісе мусяць пастарацца гэта даказаць. А адначасна папераджайце нашае сялянства, што кожны мае

*ня толькі права, але і абавязак*

сьмела і адкрыта падаваць сваю запраўдную нацыянальнасьць, не баючыся ніякіх пагрозаў і караў.

Прыступаць да працы ў гэтым кірунку трэба ўжо цяпер, загадзя, хоць блізу паўгоду аддзяляе нас ад сьпісу. Трэба мець час, каб

*усім сьведамым нацыянальна Радным-Беларусам згаварыцца і паміж сабою, і з тымі прадстаўнікамі іншых нацыянальнасьцяў*

у нашых самаўрадах, якія пры сьпісаньні хацелі-б устанавіць праўдзівыя цыфры насяленьня кожнае нацыянальнасьці. А адначасна

*беларуская прэса мусіць тлумачыць нашым народным масам іх правы і абавязкі,*

тлумачыць

*нязвычайна важнае для нашага народу значэньне правільнага выяўленьня лічбы беларусаў пад Польшчай.*

Усе нацыянальнасьці ў Польшчы ўжо заварушыліся, ужо пачалі агітацыю ў масах. Не аставаймася-ж мы адны ў хвасьце!

## КАТАСТРАФІЧНАЕ ПАЛАЖЭНЬНЕ БЕЛАРУСКІХ ГІМНАЗІЯЎ.

Палажэньне нашых Беларускіх гімназіяў ніколі ня было здавальняючым дзякуючы таму курсу ўрадавай палітыкі, якая трымала гэныя школы бязупынна ў стане няпэўнасьці. На'т і ў сучасны мамэнт, калі некатарыя з гэных школ былі прызнаны ўладаю зусім адпаведнымі ў сэнсе пастаноўкі як з выхаваўчага так і навучальнага боку, на'т, — паўтараю, і цяпер, гэтым школам выдаюцца так званыя концэсіі *толькі на адзін год*. Такім чынам з году на год ці з дня на дзень можна сказаць беларускія гімназіі змушаны падтрымліваць сваё жыцьцё, ня маючы пэўнасьці, ці назаўтра некаму ня ўздумаецца адным размахам спыніць іх існаваньне.

Што-ж можна вымагацаць ад такой школы, якая ня мае магчымасьці злажыць сабе пляну больш, як на адзін год? Школу трудна адарваць ад жыцьця грамадзянства — бо-ж яна зьяўляецца нічым іншым, як складоваю (і то найважнейшаю) часткаю грамадзкага жыцьця. Школа мае свой буджэт, мае сваю гаспадарку так як кожная гаспадарская адзінка. Нашая сельская гаспадарка мае шмат недахопаў, пляцецца ў хвасьце гаспадарак культурных народаў, але і то ўжо амаль што забыла ці прынамсі стараецца забыць пра трохпалёўку. Дык калі ні на шаг на'т не кратацца ў культурным жыцьці наперад, а застынуць пры старой традыцыйнай „трохпалёўцы“, дык і тады трэба *ўкладаць плян на тры гады!*

Ці-ж сапраўды да таго дажыліся Беларусы пад Польшчай, што ім *прыходзіцца ў век радыя і электрычнасьці лятуцець толькі аб „трохпалёўцы“?*

Ня хочацца да гэтага прызнавацца, а тым больш з гэтым пагадзіцца, але, нажаль, прыходзіцца сцьвердзіць, што апісаны вышэй *стан рэчы ў беларускіх гімназіях ня толькі, трывае вось ужо блізу 12 гадоў, але з кожным годам пагаршаецца.*

Ведама, што з 4-х гімназіяў засталося перш толькі 3, а цяпер, як відаць, будуць толькі 2, бо *Клецк* усімі дзяржаўнымі ўладамі *засуджаны на сьмерць безадкладную.* А што будзе з Вільняю і Наваградкам? Я не стаўляю гэтага пытаньня на'т у рамках „трохпалёўкі“, бо трэба думаць, што тэмп ліквідацыі Беларускіх школ ня зробіцца больш павольным: — ад Радашкавіч да Клецку прайшло толькі два гады, адсюль, у найлепшым выпадку, адну з сягоньня існуючых гімназіяў аддзяляе ад Клецка час ня большы. Але пастаўленае вышэй пытаньне я адношу цалком і выключна да сягоньняшняга дня і пытаюся, што будзе з Вільняй і Наваградкам сягоньня г. зн. у бягучым школьным годзе?

Ужо паведамлена, што Міністэрства зьменшыла сваю дапамогу Наваградзкай і Віленскай гімназіям больш як напалавіну: *Замест 7 этатаў—толькі 3.* Акром таго Наваградзкая гімназія знаходзіцца, можна сказаць, на вуліцы, бо будынку ня мае і наняць няма за што. З выасыгнаванай на будову Наваградзкай гімназіі яшчэ мінулым Соймам сумы 200 тысяч злотых, гімназія атрымала толькі 40 ці 50 тыс., за што здолела толькі давесьці будыніну пад страху. Віленская гімназія ня мае магчымасьці заплаціць Ураду арэнду за сваё памяшчэньне і ў кожнай хвіліне можа апынуцца ў такіх самых варунках як і Наваградзкая, бо Дырэкцыя публічных работ выселіць яе з Троецкіх муроў, як з дзяржаўнага сягоньня ўжо будынку.

Але гэтага ліха яшчэ мала, бо адначасна ня меншы разгром зроблены і ў складзе пэдагогічнага пэрсаналу. А адкуль узяць новыя пэдагогічныя кваліфікаваныя фармальна сілы, калі першы абітур'ент беларускіх школ мог паступіць у польскі Унівэрсытэт толькі ў восень 1928 году і такім чынам пры найлепшых варунках можа скончыць 4-х гадовы курс яго толькі вясною 1932 г! З усім гэтым чамусьці польская ўлада лічыцца абсолютна ня хоча і сьвядома ставіць нашыя школы ў немагчымае палажэньне.

Тлумачыць памяншэньне дзяржаўнай дапамогі агульнаю „компрэсыяй“ (сьцісканьнем) дзяржаўнага буджэту ў адносінах да беларускіх школ немагчыма. У сучасны мамэнт беларускія гімназіі павінны быць атулены спэцыяльнай апекаю ўраду, які мусіць выконваць свае абавязкі перад Беларускім Народам, як аб гэтым ня раз гаварылі найвышэйшыя прадстаўнікі гэтага Ура-

(гл. на адвароце).

ду, і направіць тыя крыўды, якія яму былі роблены дагэтуль. Можна ліквідаваць і сьціскаць урадовыя польскія школы, бо-ж іх наадчынялі ў сваім часе *больш, як трэба,* і забясьпечаны яны былі ўсім, што патрэбна для школы; а што ў той час зроблена нам беларусам?

Калі гаворыцца заўсёды і ўсюды аб лёяльнасьці, дык перад усім мы маем права вымагаць ад Улады лёяльнасьці да нас, як поўнапраўных грамадзян Польскай Рэспублікі. Беларускі народ нароўні з другімі грамадзянамі Польшчы нясе прыпадаючыя на яго падаткі ў казну і аддае сваіх сыноў у польскую армію для абароны ўсяе Дзяржавы, і яны ў выпадку вайны павінны будуць праліваць сваю кроў і аддаць Дзяржаве найцаньнейшы свой скарб — сваё жыцьцё. Пры такіх варунках мы маем права дамагацца справядлівага падзелу Дзяржаўных даходаў, а тое, што пры справядлівым падзеле прыпадае на долю беларусаў, перавышае ня ў соткі, а *ў тысячы разоў* тую дапамогу, якая апошнія два гады давалася беларускім гімназіям.

Тое самае датычыць і так званых кваліфікацый вучыцялёў. Калі ўладам ужо так хочацца пакінуць у сіле існуючы закон аб вучыцельскіх кваліфікацыях, дык можна яго ў гэты мамэнт з чыстым сумленьнем тасаваць да польскіх школ, але ніколі да беларускіх. Ізноў-жа для палякоў на працягу вось ужо 12 гадоў існуюць усе вышэйшыя школы, а для нас — беларусаў, як сказана, адчыніліся дзьверы гэных школ толькі ў 1928 годзе. А катэдры Беларускае мовы *няма яшчэ да сягоньняшняга дня.* Дык якіх кваліфікацый Вы, паночкі, ад нас хочаце? Як-жа можна ад нас дамагацца таго, чаго вы самі ня хочаце стварыць для нас?!

*У нашай школьнай справе мы дамагаемся толькі аднэй рэчы: справядлівасьці.* На ўсякіх выкрутах мы ўжо занадта добра знаемся і дзеля гэтага, кажу шчыра, усякае памяншэньне ўрадовых дапамогаў для нашых школ і стаўляньне ўжо ў гэтым годзе перашкодаў нашым вучыцялём мы будзем уважаць як сьвядомую варожую акцыю, скіраваную супроць Беларускага народу з імкненьнем зрабіць яму найбольшую крыўду.

*Эра.*

# ФАЛЬШАВАНЬНЕ СЬПІСАЎ.

У № 119 абшарніцкай газэты „Słowo“ з 27 траўня гэтага году зьмешчана цікавая зацемка пад назовам: „sfałszowany spis“, дзе нейкі J. S. вельмі падрабязна разьбірае тую сыстэму перапісу, якую тасаваў Чэхаславацкі Ўрад у адносінах да польскай меншасьці ў Цешынскай Сілезіі ў 1930 годзе.

Аўтар зацемкі кажа, што палякі Цешынскай Сілезіі пакладалі на перапіс 1930 году вялікую надзею, думаючы, што гэты новы перапіс дасьць палякам калі ўжо не праўдзівую, дык хоць прыблізна правільную лічбу польскае меншасьці ў Сілезіі і гэтым будзе напраўлена тэя крыўда, якая была зроблена палякам перапісам 1921 году. Надзею гэную даў Цешынскім Палякам Чэхаславацкі Закон з дня 17.III 1927 г. ды ўрадавы загад у гэнай справе апублікаваны 26 чэрвеня 1930 г. Паводле вышаазначаных законаў нацыянальнасьць мела азначацца не з суб'ектыўнага, а з об'ектыўнага пункту гледжаньня, г. зн. *аб нацыянальнасьці мела сьведчыць выключна родная мова.* Усе надужыцьці, як фальшаваньне, змушаньне падаваць іншую нацыянальнасьць і г. д. павінны былі сурова карацца. Аднак надзея гэтая ня зьдзейсьнілася, бо само Міністерста Ўнутраных Спраў, як гавора аўтар, распачало сэрыю новых крыўдаў у адносінах да палякоў, выдаўшы сваю тайную інструкцыю, згодна з каторай у некаторых паветах дазвалялася азначаць нацыянальнасьць словамі: «Слянзак-Чэхаславак», «Слянзак-Паляк» і ўрэшце проста: «Слянзак».

І зусім слушна далей абураецца аўтар зацемкі кажучы, што ўвесь культурны сьвет, а на'т само чэхаславацкае статыстычнае бюро *ня знае такое нацыянальнасьці, як слянзацкая,* якая зьяўляецца прадуктам зласьлівае выдумкі Міністэрства Ўнутраных Спраў.

Пераходзячы да разгляду самае сыстэмы перапісу зазначаецца, што сыстэма гэтая была агідная: у чыста польскіх валасьцёх камісарамі і рэвізорамі былі павызначаны выключна чэхі, якія даконвалі шмат надужыцьцяў — фальшаваньняў, вымушаньняў, пагрозаў і г. д. Адным словам канчае аўтар, перапіс быў зроблены ў такі спосаб, які мог бы служыць за ўзор як перапіс рабіць не належыцца, калі хочуць пазнаць сапраўдны малюнак нацыянальных суадносінаў у краі. Так зроблены перапіс зьяўляецца аднэю вялікаю крыўдаю для польскага народу ў Чэхаславаччыне, крыўдаю, якая перавышае ўсе папярэднія, зробленыя палякам на'т за аўстрыяцкіх часоў.

На заканчэньне аўтар задае такое пытаньне: «Ці-ж прыймаючы пад увагу такія адносіны, маюць падставу чэхі наракаць на адсутнасьць у палякоў для іх сымпатыяў?

Усё вышпераказанае мы зьмяшчаем на балонках нашай часопісі з наступных прычынаў;

1. Хутка ў Польшчы навінен адбыцца перапіс усяго насяленьня Польшчы.

2. У часы папярэдняга сьпісу насяленьня ў Польшчы перапішчыкамі і рознымі камісарамі было шмат прычынена крыўды Беларускаму Народу, прыдумаўшы ня менш недарэчную і дзікую нацыянальнасьць, як прыкладам: «паляшук» ці «тутэйшы».

3. Калі праўда ўсё тое, што падае аўтар азначавае зацемкі, дык мы *шчыра выказваем свой спагад палякам з Сілезіі і рашуча пратэстуем проціў ужываньня такіх спосабаў чэскім урадам.*

Адначасна ня можам на гэтым месцы не зьвярнуць увагі паноў пісакаў са «Слова», якое так абураецца тым, што дзеялася падчас перапісу ў Чэхаславаччыне, забываючыся, што ніхто іншы, як паны са «Слова» вялі і вядуць такую-ж самую лінію адносна беларусаў у Польшчы. Ці ня ім толькі і належыцца гонар прыдуманьня такіх назоваў, як *„паляшук“* і *„тутэйшы“?.* Сапраўды *ўвесь культурны сьвет* таксама яшчэ ня чуў пра такія народы!

Бачыце, панкі абшарнікі і шовіністы, як небяспечна мець адну мараль «на вынас», а другую для «унутранага ўжываньня», бо-ж палка заўсёды мае два канцы.

Хацелі-б мець і мы надзею, што сучасны польскі ўрад, прыступаючы да новага перапісу, не дазволіць розным панкам зьдзекавацца над беларускім народам, а шчыра і чэсна захоча выявіць сапраўдны малюнак нацыянальных суадносінаў у нашым краі.

*Валсадар.*

# ПАЛІТЫЧНАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

## Польшча.

### Шпіёнскія афэры.

За апошнія дні ўлады раскрылі дзьве ці тры шпіёнскія арганізацыі, якія, як высьветлілася, працавалі ў працягу значнага часу.

На чале аднэй стаяў нейкі маёр Дэмкоўскі. Схоплены „на гарачым учынку“ у мамэнт, калі ён перадаваў на вуліцы ў Варшаве сэкрэтныя дакумэнты ваеннаму сябру радавага пасольства, шпіён — у шпаркім парадку — быў засуджаны ваенным судом на сьмерць ды расстраляны.

Другая шпіёнская афэра высьветлілася з арыштам у Вільні капраля артылерыі літоўца Шымкунаса, які дзеяў па загаду ведамага літоўскага шпіёна Мейдунаса. Абодва арыштаваны. Шымкунас 15 ліпня быў засуджаны ваенным судом на расстрэл. Прысуд быў выкананы.

На чале трэцьцяй афэры, таксама раскрытай у апошнія дні, стаяў нейкі сумліўны „інжынер“ Ант. Станішэўскі, які быў арыштаваны ў Вільні. У сувязі з гэтым зроблена яшчэ шмат арыштаў.

Як бачым, „добрыя суседзі“ Польшчы ня трацяць надарма чачу...

## Заграніцай.

### Ратаваньне Нямеччыны ад краху.

Хувэраўскі «мараторыум», ці прыпыненьне на год спагону з Нямеччыны ваенных адшкадаваньняў, прыйшоў крыху запозна: фінансавы крызіс у Нямеччыне паставіў дзяржаву на край банкруцтва. Каб не дапусьціць ператварэньня фінансавага краху ў крах гаспадарчы дый — далей — у сацыяльны, урад змушаны быў рызыкнуць інфляцыяй: залатое пакрыцьце нямецкай маркі спала ніжэй статутовай нормы...

Але гэты «сьродак ратунку», як ведама, — вельмі небясьпечны: крах маркі выклікаў паніку на грашовым рынку — з краю пачалі масава ўцякаць замежныя ды свае капіталы заграніцу. У краі запанаваў, так званы «крызіс даверра», які стаў пагражаць усяму гаспадарчаму і дзяржаўнаму арганізму Нямеччыны. Нямецкі ўрад зьвярнуўся па ратунак ізноў да Амэрыкі. Амэрыканскі міністар фінансаў, які цяпер сядзіць у Эўропе, абяцаў немцам вялізарную пазыку, але Хувэр заявіў, што Амэрыка грошаў ня дасьць, што толькі прыме ўчасьце ў ратаваньні Нямеччыны, калі гэтая акцыя будзе наладжана супольна дзяржавамі Эўропы. Тады Амэрыка з Англіяй пачалі націскаць на Францыю, якая мае больш за ўсіх вольнай гатоўкі, каб дала пазыку немцам.

Як мы ўжо высьвятлялі, Амэрыка, ратуючы Нямеччыну ад краху, ратуе першым чынам свае грошы ў Нямеччыне. Бо-ж Амэрыка пазычыла немцам усяго каля двух дзясяткоў міліярдаў марак. Таксама і Англія ўлажыла ў Нямеччыну шмат капіталу. З усіх пазычаных Нямеччынай заграніцай грошаў 55 прац. дала Амэрыка, 20 прац. Англія і толькі 5 прац. — Францыя.

Дык дзіва, што якраз Амэрыка і Англія найбольш устрывожаны нямецкім крахам, а найменш — Францыя. Таму Францыя, на якую націскаюць вельмі моцна Амэрыка і Англія, каб памагла немцам, высоўвае розныя палітычныя ды гаспадарчыя варункі, каб выкарыстаць палажэньне чым больш выгаднае для сябе.

Францускія міністры значна спусьцілі з сваіх папярэдніх дамаганьняў, пакінуўшы з палітычных варункаў толькі адкін: каб праз 10 гадоў, пакуль немцы будуць сплачываць пазыку, яны гарантавалі нятыкальнасьць існуючага палітычнага стану рэчаў у Эўропе... Пасьля быццам спусьцілі нават — да 5 гадоў! Але немцы рашуча адмовіліся гарантаваць нават такі «палітычны мараторыум». Справа пазыкі яўна правалілася... Тады англійскі ўрад раптам запрасіў прадстаўнікоў усіх заінтэрэсаваных дзяржаваў у Лёндан на канфэрэнцыю. Францускія міністры, баючыся гвалтоўнага націску на іх у Лёндане, адмовіліся ехаць, трэбуючы, каб канфэрэнцыя адбылася ў Парыжу. Урэшце дагаварыліся на тым, што, едучы ў Лёндан, міністры вялікіх дзяржаваў спыняцца на пару дзён у Парыжу, каб тутака спрабаваць прадуступна дагаварыцца — перад рашучай канфэрэнцыяй у Лёндане. Калі ў Парыжу высьветліцца ўжо немагчымасьць паразуменьня, тады францускія міністры ня мелі ехаць у Лёндан.

У парыжскіх нарадах да паразуменьня не дайшло, бо немцы ізноў рашуча адкінулі ўсе палітычныя варункі, баронючы поўню сваей «сувэрэннасьці»... Аднак францускія міністры ўсё-ж паехалі ў Лёндан.

Лёнданскія нарады, у якіх прынялі ўчасьце міністры Амэрыкі, Англіі, Францыі, Італіі, Японіі, Бэльгіі і, зразумела, — Нямеччыны, таксама ня вырашылі справы пазыкі Нямеччыне. Бо-ж Нямеччына не пайшла на варункі Францыі, а Францыя заявіла, што можа фінансава ратаваць Нямеччыну, толькі маючы ад яе палітычнае даверра.

Тады немцы заявілі, што яны спрабуюць самі — і без пазыкі — апанаваць палажэньне ў краі, а толькі — каб вялікія дзяржавы — замест пазыкі — прынялі хаця-б меры проці ўцяканьня чужаземных (ды краёвых) капіталаў з Нямеччыны. На гэтым і пагадзіліся пакуль што ў Лёндане, адлажыўшы грунтоўнае ратаваньне нямецкіх фінансаў на 2—3 месяцы, калі мае сабрацца новая канфэрэнцыя.

Лёнданская канфэрэнцыя толькі пастанавіла запрапанаваць дзяржавам — перарабіць існуючыя каротка-тэрміновыя пазыкі Нямеччыне на доўга-тэрміновыя, дый адтэрмінаваць пазычаныя немцам Міжнародным Банкам у Базэлі 100 міл. даляраў яшчэ на 3 месяцы.

---

Лёнданская канфэрэнцыя паказала, што Францыя вытрымала, ня ўступіўшы, гвалтоўны націск з боку Амэрыкі і Англіі, адкінуўшы ўсе іх прапазыцыі.

Таму цяпер для Нямеччыны, якая так палягала на магутнай помачы з боку гэтых абедзьвюх дзяржаваў проці Францыі, высоўваецца неабходнасьць — беспасрэдняга паразуменьня з Францыяй. І гэтую задачу нямецкія дыплёматыя змушана будзе вырашыць, пакуль зьбярэцца новая канфэрэнцыя, каб яна мела лепшыя скуткі. Калі Нямеччыне ня ўдасцца апанаваць палажэньне ўласнымі сіламі, тады — няма што рабіць — прыдзецца згадзіцца можа й на палітычныя варункі Францыі.

### «Паглыбленьне» гішпанскай рэвалюцыі.

Гішпанская рэвалюцыя ўсьцяж „паглыбляецца“ — пры бяссумліўнай „дапамозе“ маскоўскіх „апякуноў“ сусьветнага пралетарыяту. Па ўсяму краю шалеюць забастоўкі, якія руйнуюць дарэшты і без таго жабрацка-убогі край, дэмаралізуючы дарэшты і без таго лянівае, адсталае ды цёмнае насяленьне Гішпаніі. За ўсялякую цану камуністычныя агенты хочуць гаспадарча ды арганізацыйна разваліць край, бо-ж толькі тады здолеюць іх правадыры захапіць ды ўтрымаць уладу... Дзеля таго — усьцяж банды ўзброеных забастоўшчыкаў — пад камандай гэтых агентаў — нападаюць на розныя найпатрабнейшыя для дзяржаўна-грамадзкага жыцьця ды ладу ўстановы, як паштовыя, тэлеграфныя, тэлефонныя, электрычныя, вадаправодныя станцыі, скарбовыя касы, банкі і д. т. п...

Але ўрад, зразумела-ж, ахоўвае найпільней якраз гэтыя будынкі — ваеннай сілай. Дык — кроў усьцяж ліецца ракой.

У Барцэлёне дык дайшло да таго, што забастоўшчыкі падлажылі міну пад тэлефонную станцыю дый узарвалі яе ў паветра, парваўшы такім чынам тэлефонную лучнасьць сталіцы гэтага краю з рэштай Гішпаніі. Гэткі чын — зроб-

лены — у мэтах... „здабыцьця аўтаноміі“ Каталёніі!..

У Сэвільлі дык адна проці аднэй стаяць запраўдныя арміі, рыхтуючыся да бою: забастоўшчыкі — работнікі „сындыкалісты“ з урадавымі войскамі ды паліцыяй... Гэтая армія забастоўшчыкаў зрабіла ўрэшце атаку на казармы цывільнай гвардыі, высунуўшы наперад некалькі радоў жанчын. Зразумела-ж, што войска змушана было адбіць атаку... у рэзультаце — некалькі дзесяткоў людзей, сярод якіх шмат з гэтага жаноцкага авангарду, лягло трупам...

Каб адразу разграміць галоўны штаб сэвільскіх камуністаў, урадавые войска пачала бамбардаваць артылерыйскім вагнём будынкі, дзе яны заселі, зруйнаваўшы цалком цэлы квартал места.

Урэшце войска перамагло, навяло парадак, арыштавала звыш 500 падбураных камуністамі работнікаў, набіўшы імі поўна вастрогі...

У рэзультаце ўсіх гэтых падзей у цэлым радзе мясцовасьцяў, дзе яшчэ нядаўна панавала ўсенароднае захапленьне здабытай воляй, роўнасьці і братства — вялікай бязкроўнай рэвалюцыі, цяпер — ліецца ракой кроў ды пануе — асаднае палажэньне, як у заваяваным ды акупаваным краі!..

Так усьцяж хаваюць камуністы здабытую волю народу, як зрабілі гэта ў Расеі.

## Мытная унія Аустрыі з Нямеччынай — у Гаагскім Міжнародным Трыбунале.

У Найвышэйшым Міжнародным Трыбунале Справядлівасьці ў Гаазе пачаўся разгляд гучнай справы „мытнага аб'яднаньня“ Аўстрыі з Нямеччынай, справы, якая дагэтуль яшчэ хвалюе Эўропу, асабліва-ж Францыю. Нашыя чытачы памятаюць, які выбух абурэньня выклікала апублікаваньне „пратаколу“ аб гэтай умове паміж Аўстрыяй і Нямеччынай. Якраз у рэзультаце гэтага акту страшэнна папсаваліся добрыя, блізу „сэрдэчныя“ стасункі між Францыяй і Нямеччынай. У выніку гэтай умовы праваліўся, кандыдуючы на Прэзыдэнта Рэспублікі дый амаль ня выляцеў нават з міністраў — Брыян...

Адмова ад гэтага „пратаколу аб мытнай уніі“ — стаіць у лічбе тых „палітычных варункаў“, якія ставіць Францыя (нават і Англія) Нямеччыне, калі тая хоча, каб Францыя прыняла ўчасьце ў фінансавай ей дапамозе.

Гаагскі Трыбунал Справядлівасьці, куды передала на разгляд справу Ліга Нацыяў, мае разглядаць справу толькі з юрыдычнага боку, а іменна: ці гэтая ўмова аб мытнай уніі супярэчыць падпісаным Аўстрыяй міжнародным трактатам, ці не. Але пасьля, трэба думаць, будзе судзіць аб гэтай умове Рада Лігі Нацыяў ужо з боку палітычнага, хаця нямецкі дэлегат у Радзе Лігі становўча заявіў, што не дапусьціць палітычнай дыскусіі над умовай у Лізе — бо-ж гэта „прыватная справа“ Нямеччыны і Аўстрыі. Трэба ведаць, што нямецкія міністры як у Парыжу так і ў Лёндане — на ўсе намовы ды націскі з боку французскіх ды англійскіх міністраў, каб зракліся яны ўмовы з Аўстрыяй, рашуча адкінулі гэтыя дамаганьні, бачачы ў іх „абмежаньне сувэрэннасьці (волі і незалежнасьці) Нямецкай дзяржавы“... Такім чынам, так званая „справа Аншлюсу“ мае яшчэ доўга хваляваць Нямеччыну, Аўстрыю і іх палітычных „прыяцеляў-супраціўнікаў“.

Цікаўна, што Італія, якая сьпярша неяк куцельска падтрымлівала — у піку Францыі — Намеччыну ў гэтай справе, а пасьля перакінулася на бок яе праціўнікаў, цішком сабе падрыхтоўвае зусім іншае вырашэньне справы Аўстрыі, злучэньне якой з Нямеччынай — страшэнна ня выгадна для Італіі. - Італія ладзіць адбудаваньне вэнгерскай манархіі, якая мае з свайго боку адбудаваць — зразумела-ж — толькі ў дзясятай часьці — былую Аўстра-Вэнгрыю! Такім чынам — замест злучэньня з Нямеччынай, Італія хоча злучыць Аўстрыю з Вэнгрыяй. Але пры гэтым Італія хоча захаваць сабе згары прыязьнь ды саюз гэтай „новай“ дзяржавы, якая мае быць значнай вагі палітычным чыньнікам у Эўропе. А таму Мусоліні страшэнна стараецца пажаніць „наступніка аўстра-вэнгерскага трону“, малалетняга Оттона Габсбурскага з аднэй з дачок італіянскага караля, зьвязаўшы ці зблізіўшы дынастычна лёсы абедзьвюх дзяржаваў з Італіяй. Такім чынам — побач з „прыязьняй“ Італіі і Нямеччыны, скіраванай проці Францыі, насьпявае і страшэнная палітычная канкурэнцыя абедзьвюх дзяржаваў — на груньце „аўстрыяцкай спадчыны“.

## ГРАМАДЗЯНЕ!

**Пішыце ў сваю газэту аб жыцьці нашае вёскі і гораду.**

## ЛЮБЛЮ.

Люблю старонку Гедыміна,
Край пушч, балотаў і вазёр;
Мая то родная краіна,
Блізкі, знаёмы мне прастор.
Мне тут усё сьпявае гымны;
Я тут радзіўся, тут і рос.
Знаёмы шопат пераліўны
Мне хвоек нашых і бяроз.
Люблю я зранку выгляд поля,
Дзе сьпеюць жыта каласы,
Там вецер плавае паволі,
Страсае капелькі расы.
Мне сэрца радасьць напаўняе,
Як бачу гэтулькі красы... —
І хто-ж цябе не пакахае,
Край Родны мілай прастаты?
Хто не адчуў Твайго уроку,
Ня будзе ўмець Цябе цаніць, —
Тваіх пагуркаў сьветлавокіх
І хваль сярэбраных крыніц.

*У. Б.*

# У краіне катаў.

## Бягуць з Радаў...

Нават спэцыяльна протэгаваныя бальшавіцкімі ўладамі нямецкія спэцыялісты масава бягуць з Радаў. Як даносіць француская прэса каля 200 немцаў — спэцыялістаў выехалі толькі што дамоў з аднаго толькі Данецкага вугальнага басейну. Прычына — зьменшэньне — міма ўмовы — платаў ды наагул «дрэннае абыходжаньне» з боку ўладаў...

Калі бягуць з Радаў Немцы, дык відаць з таго, як салодка там усім іншым, а насамперш сваім.

## РАДАВЫ „ГЕРОЙ“ СПОШНЯЙ ШПІЁНСКАЙ АФЭРЫ.

Газэты даюць цікаўныя весткі аб цэнтральнай фігуры апошняй шпіёнскай афэры ў Польшчы, выканаўцы якой часткай ужо панясьлі кару жыцьцём, часткай чакаюць такога-ж лёсу...

Ваенны агент пры радавым пасольстве Боговой, скампраматаваны арганізатар гэтых шпіёнскіх бандаў, адкліканы з Варшавы ў Маскву, дзе зараз-жа атрымаў... павышэньне — назначаны камандзірам дывізіі.

Палкоўнік Боговой — па фаху каваль; пакліканы на ваенную службу папаў у флёт матросам — качагарам на крэйсэр «Аврору». Ужо перад рэвалюцыяй слаўны быў у флёце сваімі п'янымі авантурамі. Бальшавіцкая рэвалюцыя адразу высоўвае яго на «чаловае становішча». Асаблівую ўдзячнасьць з боку Леніна здабыў ён тым, што, сабраўшы банду такіх-жа як ён сам галаварэзаў, захапіў каманду на крэйсэры «Аврора», перарэзаўшы на ім усіх ахвіцэраў. Гэты крэйсэр «Аврора» — той самы, які вырашыў лёс бальшавіцкай рэвалюцыі, пачаўшы бамбардаваць з ракі Нявы Зімовы і Таўрыдзкі палацы ў Петраградзе, дзе мелі сядзібу тымчасовы ўрад і Рада работніцкіх і сялянскіх дэпутатаў. Бамбардыроўкай кіраваў Боговой, які за гэта быў зроблены камісарам. У часе Кронштацкага бунту матросаў проці бальшавіцкай улады, на чале бунтаваўшых стаіць гэты самы Боговой. Але — у рашучы мамэнт, калі ўлада бальшавікоў трашчэла наскрозь, Боговой здраджае таварышоў і пераходзіць на бок бальшавікоў. Паўстаньне, якое можа-б вызваліла Расею ад камунізму, было задушана, дый Боговой сам — у ролі «судзьдзі» — судзіць ды сотнямі засуджвае на сьмерць яго ўчасьнікаў, якіх сам-жа ён арганізаваў ды справакаваў да бунту.

Кар'ера правакатара і ката — забясьпечана. Ён пераходзіць у пяхоту, атрымлівае «чын» палкоўніка, працуючы ў войсковай Г. П. У. (Чэка). Яго кідаюць па ўсяму СССР усюды, дзе зьяўляецца патрэба ў безмежнай жорсткасьці, і ён ліе адно лькава лёгка кроў бунтуючых проці камуністычных катаў — расейцаў, украіцаў, беларусаў, татараў, карэлаў, башкіраў і шмат каго інш.

Урэшце Боговой распачаў ваенна-дыплёматычную кар'еру — назначэньнем ваенным агентам пры пасольстве ў Варшаве, дзе ён «спэцыяльна» займаўся арганізацыяй шпіёнажу... І вось — гэтая кар'ера раптам скончылася... ці можа — толькі прыпынілася на якісь час.

# Жудасныя лічбы.

*(Страты ад „чырвонага пеўня“ і барацьба з ім).*

Паводле статыстычных даных за першую палову бягучага году на абшары аднаго толькі Віленскага ваяводзтва зарэгістравана 1200 вялікшых (ня лічачы ўжо драбнейшых) пажараў. Як аблічана Дзяржаўнай Страхавой Установай, гэтыя пажары нарабілі стратаў больш, як на 6 міліёнаў 200 тысяч злотых! Тая-ж статыстыка дадае, што каля 5 прац. гэтых пажараў выклікана падпалам — у мэтах атрыманьня страхоўкі...

Страшныя лічбы!

Калі-ж урэшце нашыя гмінныя самаўрады возьмуцца за розум дый пачнуць пляновую барацьбу з „чырвоным пеўнем“ — шляхам папярэджаньня пажараў?!

Калі-б запраўды гэтыя 6 зьлішкам міліёнаў проста спаленых надарма злотых згары ўлажыць у такую пляновую акцыю барацьбы, дык — колькі-ж можна было зрабіць карысных рэчаў для краю!

Як ведама дый легка зразумела, найкарысьнейшая эканамічная барацьба з пажарамі зьяўляецца якраз у спосабах папярэджаньня іх выбуху дый іх стыхійнага пашырэньня, але не ў ратаваньні ад агню, які ўжо ахапіў будынкі, дый не ў дапамозе ўжо пацярпеўшым ад пажару.

Але якраз у гэтай галіне папярэджаньня пажараў блізу што нічога ня робіцца на нашай вёсцы.

Трэба зразумець, што наагул найвярнейшым агульным спосабам папярэджаньня пажараў зьяўляецца агульнае падняцьце культуры і дабрабыту вясковага насяленьня.

У частцы — найбольш спрыяючым шалёнаму, стыхійнаму характару вясковых пажараў зьяўляецца, як ведама, цесната, скучанасьць вясковых забудаваньняў.

Таму — першым спосабам папярэджаньня пажараў зьяўляецца разумнае разьмяшчэньне будынкаў у сялянскім двары, дый самых двароў адзін да аднаго ў вёсцы. А гэта, зразумела, магчыма толькі пры грунтоўнай перабудове ўсяго пляну вёскі, ці, інакш кажучы, — пры перарэзцы шнуроў на адрубы, ці на хутары.

Гэтая, так званая „комасацыя“ карысьці якой ужо грунтоўна зразумела нашае сялянства, шырака практыкуецца на нашай вёсцы.

Нажаль толькі часта-густа вёскам, падаўшым ужо заявы аб пераходзе на адрубы, прыходзіцца цэлымі гадамі чакаць сваей чаргі: як сцьвярдзіў калісьці сам міністар зямельных рэформаў, перашкаджае належнаму хуткаму ходу гэтай комасацыйнай акцыі ня ўпорства сялян, але недахоп землямераў!

Але ня толькі недахоп землямераў затрымлівае хуткасьць нагвалт патрэбнай комасацыйнай акцыі.

Справа ў тым, што рабіць здаровыя хутарныя гаспадаркі ня можна-ж з тых дробных кавалачкаў зямлі, на якіх зазвычай сядзяць лічныя ў нас малазямельнікі. Як заявіў у свой часе былы міністар Станевіч, у такіх выпадках перарэзка на хутары бяз прырэзкі зямлі ня дасьць эканамічных рэзультатаў.

Такім чынам, як бачым, нават для барацьбы з пажарамі патрэбна — зямельная рэформа, патрэбна падняцьце агульнага дабрабыту, падставай якога, як ведама, для селяніна–хлебароба зьяўляецца — зямля.

Але, паўтараем, адна зямля ня дасьць ратунку, калі само салянства ня будзе ўсімі сіламі імкнуцца да агульнага падняцьця на вёсцы культуры, а ўчастцы — культуры проці-пажарнай.

І тут — на першым пляне стаіць так званае „агнятрывалае“ будаўніцтва. Трэба, каб само сялянства моцна штурхала сваіх выбранцаў у Гмінных Радах, каб тыя ўсьцяж паднімалі справу шырокай ды пляновай арганізацыі гэтага будаўніцтва на вёсцы. На спаленых за мінулае паўгодзьдзе 6 зьлішкам міліёнаў злотых можна было-б на прасторы Віленскага ваяводзтва забудаваць цэлыя дзясяткі вёсак агнятрывалымі будынкамі!

Далей, — страшэнным, забіўчым для сялянскага дабрабыту саюзьнікам шалеючага па вясковым абшары блізу без усякай перашкоды „чырвонага пеўня“ зьяўляецца, як ведама, „плыўкі агонь“ нашай „нацыянальнай“ гарэлкі...— Сколькі пажараў выбухла з прычыны бязглуздага абыходжаньня з вагнём з боку „разчыніўшага“ у сваім розуме гарэлкай усялякую асьцярожнасьць п'янага гаспадара ці яго гасьця!... Колькі пажараў выклікана недаглядам з боку старшых за дзяцьмі, за старымі, хворымі, вар'ятамі, калекамі і т. д.

А рада на ўсё гэта — паўтараем — толькі адна: агульнае падняцьце роўня культуры, участцы — проці-пажарнай сьведамасьці насяленьня.

А таму — ізноў — рада наша нашым чытачам—гаспадаром-хлебаробам: націскайце ўсьцяж на свае самаўрады, каб гэтую пляновую барацьбу з пажарамі — шляхам іх рацыянальнага, пляновага папярэджаньня — яны ставілі аднэй з першых ды важнейшых задачаў сваей дзеяльнасьці.

С.

